Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 3 кастрычніка 1930 г. №. 27

# ЯНКА КУПАЛА

## (К 25-лецьцю яго літэратурнае працы).

Дваццацьпяць гадоў таму назад, калі па ўсенькай Расеі ўздымаліся магутныя хвалі рэвалюцыйнага руху, захапляючы і беларускія працоўныя масы, — пачуліся нясьмелыя гукі беларускае жалейкі. Хоць ціхія былі яны, хоць іграў на ёй такі сабе „просты“, „з вёскі“ Янка Купала, ды родная песьня выбілася з грымотнага гулу рэвалюцыі: бо сэрцам пачулі яе сыны Беларускай Зямлі, бо дзіўныя чары мела яна для душы беларускай.

І акрыяў наш Пясьняр: сілу мільёнаў пачуў за сабою. І голас яго з кожным годам мацней гучэць пачынае і кліча — вядзе наш народ да яснага сонца, да зораў бліскучых, за долю і волю змагацца заве ўсіх гаротных сыноў Беларусі.

За магутным парывам да волі, як першы раз падняў масы сялян і рабочых рознаплеменнай дзяржавы маскоўскіх цароў чверць веку назад, пайшлі даўгія, страшныя гады палітычнай рэакцыі. Але і ў найчарнейшыя дні голас прарочы Купалы ні на адну часіну не заціхае: ён стаецца ўсё больш гучным, яго лёзунгі—ўсё больш яркімі, ўсё далей сягаючымі. І прыгнечаныя, закаваныя беларускія масы, слухаючы песьні Купалавы, скрозь цемру ночы бачаць далёкі абраз ясьнейшае будучыні, маляваны рукой вялікага мастака слова.



Веру й надзею на лепшую будучыну ўліваў Купала ў душы беларускія, распаляў у іх вагонь барацьбы за вялікія ідэалы чалавецтва і народу Беларускага. І калі сягоньня народ наш скідае путы духовай няволі, калі рве ланцугі сацыяльнага рабства і сьмелай рукой будаваць пачынае сваю Бацькаўшчыну,—дык у гэтым вялікую частку заслугі мае Купала.

І ня толькі ў гэтым. Бо Купада ў родным слове творыць вялікія мастацкія цэннасьці, бо літэратуру ледзь збудзіўшагася „мужыцкага“ народу падыймае на ровень літэратур старых культурных народаў, бо ўсяму сьвету паказуе, што жыве Беларусь, што мае ў сабе вялікія творчыя сілы і мае права на жыцьцё. І той уклад у скарбніцу беларускае культуры, які зрабіў Купала, тым большую вартасьць мае для нас, што ён—нязьнішчальны. Пройдуць дзесяткі гадоў, зьменяцца нашыя цяжкія варункі жыцьця, народзяцца новыя пясьняры-мастакі, але творчасьць Купалы ня будзе забыта: бо не ўмірае праўдзівая краса, бо ня губляюць сваёй вагі вечныя агульналюдзкія ідэалы Волі, Роўнасьці і Братства людзей і народаў, якія ў творах сваіх абвяшчае Купала.

За „чырвоным“ Менскам у чверць-вякоў, юбілей творчае працы Купалы і „белая“ Вільня скланіла сваю галаву прад вялікім сынам Зямлі Беларускае. Хай жа да агульнага выяўленьня пашаны яму далучацца сяньня і гэтыя нашыя словы.

---

# 1ая Сэсія Галоунай Рады Беларускага „Цэнтрасаюзу“.

У цяжкую хвіліну пачынае сваю працу Беларускі „Центрасаюз“, які імкнецца да аб'еднаньня ўсей культ.-асьветнай і гаспадарчай працы на нашых землях, а таксама яе пашырэньня і ўзмацненьня. Усё нашае грамадзкае жыцьцё расьцярушана, слабенькія інстытуцыі і арганізацыі ледзь ледзь жывуць, адчуваюцца непрыязныя адносіны да іх ня толькі з баку шовіністычных польскіх колаў, але і з боку нашых дэмагогаў, якія ў кожным культурным, ці то гаспадарчым пачынаньні, якое ня носіць нейкага „кабалістычнага“ кляйма, стараюцца дагледзець нешта „ад фашызму“, якія нават стараліся ў свой час усё гэтае „фашыстаўскае“ зруйнаваць, але калі пабачылі, што гэта ім не пад сілу — адступілі ў бок і з-за вугла пазіраюць, спадзяваючыся хуткага зруйнаваньня рэштак таго, што носіць характар беларускага.

Але відаць ня прыдзецца ім дачакацца гэтай шчасьлівай для сябе мінуты.

Беларускае грамадзянства маець яшчэ сілы ў сябе, каб вытрымаць гэтыя атакі, як з левага боку, так і з правага.

Доказам гэтага быў той Зьезд, ці лепш кажучы, Сэсія Рады, якая адбылася 27 верасьня ў Вільні.

Ініцыятары гэтага З'езду мелі намер склікаць толькі прадстаўнікоў тых інстытуцыяў і арганізацыяў, якія ў нас істнуюць фактычна, а ня лічацца толькі на паперы, каб падлічыўшы свае сілы, накрэсьліць плян сваей дзеяльнасьці ў будучыні на падставе таго статуту, які зацьверджаны ўладамі і які дасьць даволі шырокія магчымасьці для культурна-творчай працы.

Практыка паказала, што куды ляпей пачынаць усё ад малога і прадвігаючыся наперад, замацоўваць за сабою пазыцыі.

З'езд гэты быў пазбаўлены ўселякіх бутафорскіх прыкмет — і гэта было зроблена сьвядома.

У найбольш сьведамай частцы нашага грамадзянства даўно ўжо адчувалася патрэба, усімі нашымі пакуль-што невялічкімі сіламі, накрэсьліць плян далейшай працы, аб'яднаўшыся для гэтага ў нейкі адпаведны Цэнтр, а далей павесьці ўжо тую пляновую працу, якая так патрэбна для нашага краю.

І вось на гэтым як раз З'ездзе быў зроблены пачатак, які абяцае, што Беларускі Цэнтрасаюз будзе істнаваць ня толькі на паперы (як бы таго хацелі нашыя „прыяцелі“), а фактычна мае маральныя і інтэлектуальныя сілы, каб нешта стварыць карыснае для беларускага народу.

З'ехаліся прадстаўнікі ад амаль усіх тых беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, якія вядуць штодзенную працу па нацыянальна-культурнаму ўзгадаваньню шырокіх беларускіх масаў, якія спачуваючы ідэі консолідацыі беларускага культурна-нацыянальнага руху,—прыехалі з правінцыі, каб пераканацца ў тым, якія намеры і пляны маець Цэнтрасаюз.

І раз'ехаліся па сваіх кутках безумоўна з надзеяй на тое, што беларускі народ, ня гледзячы на сваю „разьцярушанасьць“, маець яшчэ сілы каб распачаць пляновую працу ў межах сучаснае Польшчы ў кірунку свайго адраджэньня.

Бо запраўды гэты З'езд прайшоў вельмі ажыўлёна, кінута было шмат цікавых і вельмі карысных думак, рэалізацыяю якіх павінен заняцца Прэзыдыўм Цэнтрасаюзу, выбраны на З'ездзе.

Нам здаецца, што ўсё тое, што лічыць сябе беларускім, што запраўды імкнецца да дабра беларускага народу —павінна спачуваць пачынаньням Цэнтрасаюзу і гарнуцца да яго, ўзмацняючы гэткім способам наш нацыянальны фронт.

Для таго, каб даць магчымасьць зазнаёміцца шырэйшым колам беларускага грамадзянства з тым, што рабілася на З'ездзе і якія пытаньні былі там парушаны — друкуем пратакол І-ай Сэсіі Рады Беларускага Цэнтрасаюзу.

## ПРАТАКОЛ

### Першае Сэсіі Галоўнае Рады Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Прасьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Інстытуцыяў у Вільні 27—28 верасьня 1930 году.

Сэсію адчыняе гр. **Антон Трэпка** і прапануе выбраць за старшыню сходу гр. Антона Луцкевіча і за асэсараў гр. гр. Якубёнка (Клецк) і Даніляевіча (Наваградак). Выбар прымаецца аднагалосна акламацыяй. За сэкрэтара запрашваецца гр. Ст. Станкевіч.

**Старшыня**, прымаючы кіраўніцтва сходам, абвяшчае сьпіс установ і арганізацыяў, якія ўвайшлі ў склад Цэнтрасаюзу і прыслалі сваіх дэлегатаў, а паіменна: 1) Беларускае Навуковае Т-ва, 2) Бел. Вучыцельскі Саюз, 3) Бел. Дабрадзейнае Т-ва, 4) Аб'яднаньне Белар. Кабет, 5) Віл. Белар. Гімназія, 6) Бацькаўскі Камітэт В. Б. Г., 7) Наваградзкая Белар. Гімназія, 8) Бацькаўскі К-т Н. Б. Г., 9) Клецкая Белар. Гімназія, 10) Бацькаўскі К-т К. Б. Г., 11) Белар. Гаспадарскі Зьвяз, 12) Бел. Кнігарня Б. Г. Зьвязу ў Маладэчне, 13) Кааперэтыва „Спулдзельнп“, 14) Кааперэтыва „Пчала“, 15) Рэдакцыя сельска-гаспадарчага журналу „Саха“. З агульнае лічбы прысутных, запісаных на ліс'це прысутных (57), права рашаючага голасу маюць 26 асоб, дэлегаваных памянёнымі арганізацыямі і ўстановамі. Прадстаўнікі гурткоў Т-ва Беларускае Культуры, Т-ва Белар. Школы, Інстытуту Белар. Гаспадаркі і Культуры і Белар. Гасп. Зьвязу, якія папрыяжджалі на сэсію Бел. Рады Цэнтрасаюзу, дапускаюцца, як госьці, з дарадчым голасам.

Гр. **Астроўскі** робіць даклад арганізацыйнага характару, мотывуючы патрэбу стварэньня Цэнтрасаюзу, які павінен аб'яднаць усе жывыя беларускія сілы дзеля здавольваньня культ.-прасьв. і эканамічных патрэб народу.

Гр. **Анічыц** дакладывае пляна праектаванае працы Цэнтрасаюзу ў галіне эканамічна-гаспадарскай. Асаблівую ўвагу зварачае на каапэра-

цыю. Каб уцягнуць у працу пад прапагандай каапэрацыі студэнцкую моладзь, праектуецца адчыненьне каапэрацыйных курсаў у Вільні. На парадку дня стаіць такжа заснаваньне Каапэратыўнага Беларускага Гаспадарскага Банку.

Па дакладу бярэ слова гр. **М. Галяс**, які зварачае ўвагу на нястачу ў беларускай мове каапэратыўнае літэратуры і заклікае Цэнтрасаюз парупіцца аб яе. — Прапазыцыя сходам прымаецца. Прымаецца і даклад гр. Акінчыца.

**Д-р Ян Станкевіч** робіць даклад у справе культурна-прасьветнае працы Цэнтрасаюзу, падзяліўшы яго на дзьве часьці: аб працы школьнай і пазашкольнай. Заклікаючы да далейшай акцыі падаваньня дэклярацыяў аб беларускіх урадовых школах, зварачае ўвагу на тое, што ў існуючых ужо ўрадавых беларускіх і ўтраквістычных школах няма ніякага грамадзкага нагляду над пастаноўкай у іх беларускага выкладаньня. Дабіцца такога пагляду і павінен Цэнтрасаюз. Дакладчык прапануе разьвіць акцыю навучаньня дзяцей беларускае мовы прыватным спосабам—у камплектах па 10 дзяцей, на што не вымагаецца ніякага дазволу. Неабходна засновываць курсы граматы для выраслых з беларускім выкладаньнем. Трэба закладаць беларускія народныя дамкі і бібліатэкі і дабіцца ўзнаўленьня іх дзеяльнасьці там, дзе гэтаму стаіць на перашкодзе адміністрацыя. Трэба зрэалізаваць урэшце разважаны ў працягу году плян арганізаваньня рэфэратаў на правінцыі; дзеля зьмяншэньня коштаў Цэнтрасаюз павінен надрукаваць спэцыяльныя афішы аб лекцыях з пропускамі дзеля ўпісываньня даты, імя лектара і тэмы рэфэратаў. Да культурнае працы мусяць быць уцягваны людзі на мясцох. Дзеля абароны ад палянізацыі, якая праводзіцца польскімі арганізацыямі пры навучаньні беларускае моладзі на вёсцы часта і карысных рэчаў (ручныя працы і інш.), беларускія арганізацыі мусяць самі весьці гэткую працу. Цэнтрасаюз мусіць імкнуцца ў будучыні да закладзінаў Беларускага Народнага Унівэрсытэту, які-б працаваў ня толькі ў горадзе, але й на правінцыі.

У дыскусіі па дакладу выступае цэлы рад прамоўцаў.

Гр. **Астроўскі**, гаворачы аб навучаньні дзяцей у камплектах па 10 душ, прапануе распрацаваць плян гэтае акцыі.

Гр. **Трэпка** падае думку размнажаць на пісьме праектаваныя рэфэраты і рассылаць іх па вёсках дзеля прачытываньня іх там публічна. Прапануе Цэнтрасаюзу ўзяць на сябе нагляд над беларускім школьніцтвам (прыватным і эвэнтуальна ўрадовым) з боку беларускасьці.

Гр. **Астроўскі** зварачае ўвагу на тое, што Цэнтрасаюз, каб дабівацца перад школьнымі ўладамі ўхіленьня ўсіх існуючых балячак у вядзеньні беларускага выкладу ў урадавых школах, мусіць атрымліваць з месц не агульныя кіраваньні, а точныя даныя, дзе і ў якой школе робіцца крыўда беларускасьці. Заклікае, каб людзі з месц прысылалі ў Цэнтрасаюз гэткія інфармацыі.

Гр. **Тарасэвіч** заяўляе, што на вёсцы ёсьць жывыя культурныя сілы, толькі яны разьбіты, а ад гэтага церпіць і культурная праца.

Гр. **Малейка** зварачае ўвагу на арганізацыю пажарных дружын, якія цяпер вядуцца ў польскім духу. Каб яны былі беларускія, трэба, каб статут і іншая неабходная літэратура былі надрукаваны ў беларускай мове і каб за арганізацыю дружын браліся сьведамыя беларусы. Прамоўца кажа далей аб тым, што рэлігія праваслаўным беларусам мусіць быць выкладана пабеларуску. Гэтага мусіць дабівацца Цэнтрасаюз.

Гр. **Логаш** кажа аб патрэбе выдаваньня таннае беларускае кніжкі.

Гр. **Данілевіч** адзначае тыя перашкоды, якія беларуская культурная праца сустракае на мясцох з боку адміністрацыі, каторая ўсё беларускае ідэнтыфікуе з камуністычным.

Гр. **Бусел** заклікае імкнуцца да такога наладжаньня эканамічнае працы, каб беларусы ўнезалежніліся фінансава.

Гр. **Логаш** кажа, што беларусы не павінны пакладацца на помач звонку, а апірацца трэба на ўласныя сілы і засобы.

Гр. **Стан. Станкевіч** адзначае неабходнасьць таго, каб усякая праца на вёсцы вялася на глыбокіх грамадзка-нацыянальных падставах, была абвеяна духам ідэйнасьці беларускай, не ўваходзячы ў вузкія рамкі партыйніцтва.

Гр. **Ханяўка** прапануе распрацаваць праграму дзеля курсаў беларусазнаўства для вёскі.

**Д-р Я. Станкевіч** радзіць арганізаваць усюды, дзе ёсьць беларускія ці утраквістычныя школы, адумысныя гурткі дзеля пагляду над іх беларускасьцяй, заклікае да актыўнасьці вясковую інтэлігенцыю і кажа, што вялікую грамадзкую працу трэба весьці паміма ўсіх адміністрацыйных перашкодаў.

Старшыня гр. **Луцкевіч**, зачыняючы дыскусію, заклікае да ўпорлівае, вытрывалае творчае працы і да барацьбы за права на яе.

Даклад гр. Станкевіча і выказаныя ў дыскусіі пажаданьні і прапазыцыі сходам прымаюцца.

Сход прыступае да выбару Прэзыдыуму Галоўнае Рады і Рэвізыйнае Камісіі.

За старшыню Прэзыдыуму Галоўнае Рады аднагалосна праз аклямацыю выбіраецца гр. Антон Трэпка.

Называюцца наступныя кандыдаты на сяброў Прэзыдыуму: Астроўскі, Я. Станкевіч, Акінчыц, Луцкевіч, Цеханоўскі, Чатырка, Якубёнак, Бусел, Коўш, Макарэвіч, Кароль, Логаш, Шнаркевіч. Зьнялі свае кандыдатуры: Луцкевіч, Логаш, Коўш і Бусел. У выніку галасаваньня запіскамі выбранымі аказаліся: Астроўскі (23 галасы), Акінчыц (20), Якубёнак (19), Шнаркевіч (19), Кароль (17). Рэшта кандыдатаў атрымала менш паловы галасоў: Цеханоўскі—12, Чатырка—11, Я. Станкевіч—8, Макарэвіч—7,—дзеля таго адбылося паўторнае галасаваньне, каб з гэтых чатырох выбраць аднаго. У выніку паўторнага галасаваньня атрымалі: Цеханоўскі—14 гал., Чатырка—4, Макарэвіч—4, Я. Станкевіч—3. Выбраным аказаўся Цеханоўскі.

У Рэвіцыйную Камісію выбраны галасаваньнем запіскамі: за сяброў — Грышкевіч (20 гал.), Чатырка (17), Міхалевіч (17); за кандыдатаў: 1) Я. Станкевіч, 2) Данілевіч.

Сход пераходзе да чарговага пункту парадку дня: да справы выбараў у Сойм і Сэнат.

Старшыня **Луцкевіч** робіць даклад аб гэтай справе, адзначаючы неабходнасьць гуртавацца дзеля выбарнае акцыі не пад фірмай тых ці іншых беларускіх партыяў, якія існуюць толькі на паперы, а навакол лёзунгаў позытыўнае творчае культурна-нацыянальнае і гаспадарска-эканамічнае працы. Пры такой настаноўцы справы пад сьцягам выбарнага Камітэту Цэнтрасаюзу, на чале якога стаяць: Ф. Акінчыц, К. Крук, В. Грышкевіч і д-р Ільяшэвіч, — могуць аб'яднацца людзі з самых рознародных палітычных групаў, калі толькі яны стаяць на беларускім становішчы. Прамоўца прапануе разгляд пытаньня аб выбарнай акцыі перанесьці на заўтрашні дзень, бо сягоньня ўвечары адбываецца ладжаны Цэнтрасаюзам вечар, пасьвячоны творчасьці Янкі Купалы ў сувязі з 25-лецьцем творчае працы яго, і часу ўжо асталося зусім мала.

Гр. **Акінчыц** прапануе сягодня выслухаць „наказ“, а дыскусію перанесьці на заўтра. Адзначае неабходнасьць учыніць усе крокі дзеля стварэньня адзінага беларускага фронту і распачаць іх зараз-жа.

Гр. **Астроўскі** прапануе прыняць сягодня толькі рэзалюцыю аб патрэбе адзінага фронту, але распачаць акцыю ў гэтым кірунку толькі тады, як будзе аканчальна прыняты „наказ“ будучым паслом, бо з яго відаць будзе ясна ідэйную фізіяномію выбарнага К-ту Цэнтрасаюзу.

Рэзалюцыя аб неабходнасьці адзінага нацыянальнага фронту прынімаецца аднагалосна. Паседжаньне абвяшчаецца прыпыненым да заўтрашняга дня ў тым-жа месцы ў 10 гадз. раніцы.

## Прадоўжаньне паседжаньня 28. IX. 1930.

28/IX у 10 г. 30 мін. паседжаньне ўзнаўляецца.

Гр. **Акінчыц** чытае праект наказу, які мае быць дадзены выбарным камітэтам Цэнтрасаюзу будучым паслом у Сойм і Сэнат (—тэкст далучаецца да пратаколу).

Пасьля прачытаньня „наказу“ абвяшчаецца 30-мінутны перарыў дзеля таго, каб учасьнікі Сходу мелі магчымасьць лепш з'арыентавацца ў ім і прыгатавацца да дыскусіі.

Пасьля перарыву пачынаецца дыскусія па „наказу“. Бяруць слова гр. гр. **Сіняўскі, Луцкевіч, Астроўскі, Коўш, Якубёнак, Сарока, Акінчыц** і некаторыя госьці. Адзін з апошніх высказывае сумліў, ці варта ў „наказе“ ставіць пытаньне аб патрэбе надзяленьня мала — і беззямельна сялянства зямлёй бяз выкупу. Усе прамоўцы полемізуюць з ім і бароняць прынцып „бяз выкупу“. Гр. Коўш прастуе словы аднаго з прамоўцаў аб пэнсіі праваслаўнага мітрапаліта: ён сцьвярджае, што пэнсія гэтая складаецца з сумы 1.000 злотых.

Прапануюцца гэткія дадаткі да наказу: 1) аддзяленьне царквы ад гаспадарства і 2) вызваленьне школы ад царквы. Проці першага ніхто не пярэчыць; аўтар другога бярэ сваю прапазыцыю назад пасьля выясьненьня, што гэта будзе ўжо дэталізацыя першае папраўкі, а ў „наказе“ трэба зьмясьціць толькі аснаўныя пункты.

Старшыня стаўляе на галасаваньне папраўку аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы, а пасьля і ўвесь наказ. І адно і другое прымаецца аднагалосна — з тэй засьцярогай, што аканчальная рэдакцыя „наказу“, асабліва-ж першае часткі яго, будзе ўстаноўлена аканчальна па паразуменьні выбарнага к-ту Цэнтрасаюзу з Прэзыдыумам Галоўнае Рады.

Пункт павесткі аб выбарах абвяшчаецца вычарпаным. Старшыня абвяшчае, што ўсе прадстаўнікі з правінцыі павінны пасьля закрыцьця Сэсіі паразумецца з выбарным К-там у тэхнічных справах і паінфармаваць Камітэт аб пажаданых кандыдатурах з месц.

Сход пераходзе да бягучых спраў.

Гр. **Данілевіч** парушае справу будовы бурсы пры Белар. Гімназіі ў Навагрудку, на якую грошы былі асыгнаваны соймам, але дагэтуль урадам не выплачываюцца. Калі грошы зараз ня будзе, дык да зімы нельга будзе накрыць гмаху, і за зіму будынак можа вельмі пацярпець.

Гр. **Я. Станкевіч** выступае ў справе вучыцельскай сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча, якую адчыніў у Вільні Урад. Сэмінарыя мусіць быць чыста беларуская, тымчасам школьныя ўлады загадываюць выкладаць ня толькі польскую мову, польскую-літэратуру, польск. гісторыю і польскую геаграфію, але і агульную гісторыю, агульную геаграфію, гыгіену і гімнастыку—ў польскай мове, стараючыся гэтак зрабіць сэмінарыю не беларускай, а ўтраквістычнай, ня гледзячы на рашучы пратэст проці гэтага ўсяго беларускага грамадзянства. Апрача гэтага, хаця блізу ўсе вучні і вучаніцы Сэмінарыі—беларускае нацыянальнасьці, ўлада назначыла на ўзгадавальнікаў іх—палякоў. Прамоўца прапануе прыняць рэзалюцыю аб выхадзе з Сэмінарыі ўсіх пэдагогаў-беларусаў і дырэктара Астроўскага, калі ўсе гэтыя ненармальнасьці ня будуць уладжаны.

Гр. **Астроўскі** апавядае аб арганізацыі сэмінарыі, аб перашкодах у працы і аб тых кроках, якія Цэнтрасаюз учыніў ужо ў кірунку адваяваньня беларускага характару сэмінарыі. Пададзены міністру асьветы мэморыял проці імкненьня школьных уладаў да ўтраквізацыі сэмінарыі, а віленскаму куратару—аб неабходнасьці назначэньня на ўзгадавальнікаў сэмінарыстаў—беларусаў. Сягоньня-ж віленскі куратар і гр. Астроўскі выяжджаюць у Варшаву, куды іх выклікае міністар асьветы на канфэрэнцыю ў справах сэмінарыі. Зварачае ўвагу на неабходнасьць крытычна аднесьціся да прапанаванае гр. Станкевічам рэзалюцыі: новаадкрытую Сэмінарыю, дзе выкладае вялікая большасьць пэдагогаў-беларусаў і сам дырэктар беларус, а такжа большасьць прадметаў выкладаецца ў беларускай мове, нельга стаўляць на адным роўні з польскімі сэмінарыямі, як гэта робіць гр. Станкевіч.

Гр. **Станкевіч** падтрымлівае сваю рэзалюцыю аб байкоце сэмінарыі.

Гр. **Акінчыц** прапануе не вырашаць гэтае справы да павароту гр. Астроўскага з Варшавы.

Старшыня **Луцкевіч** прапануе не абгаварываць тактыкі, якой належыць дзяржацца, публічна: на сходзе ёсьць прадстаўнікі варожае прэсы, якія ўраз бы апублікавалі, калі-б сход прыпадкам адкінуў рэзалюцыю Станкевіча, а тады нельга было-бы рабіць націск на міністэрства, якое было-бы папярэджана, што беларусы ня будуць рабіць „узрыву“ сэмінарыі хоць-бы яна асталася ўтраквістычнай. Выступленьне Станкевіч лічыць нетактоўным і шкодным. Прапануе даць Прэзыдыуму наказ рашуча бароцца за беларускі характар Сэмінарыі, дэкляруючы, што ўсе ўчасьнікі сходу дадуць маральнае падтрыманьне Прэзыдыуму, калі-б той прызнаў патрэбным абвясьціць байкот Сэмінарыі.

Гр. **Я. Станкевіч** сваю рэзалюцыю зьнімае.

Гр. **А. Уласаў** прапануе Цэнтрасаюзу прыняць рэзалюцыю з дамаганьнем, каб урад узнавіў Радашкоўскую Беларускую Гімназію, зачыненую ўладамі. — Рад прамоўцаў (Тарасэвіч, Станкевіч, Грышкевіч, Акінчыц, Луцкевіч) прапануюць розныя варыянты змодыфікаванай рэзалюцыі гр. Уласава.

Гр. **Я. Станкевіч** парушае справу аднагодніх беларускіх вучыцельскіх курсаў, якіх урад не адчыніў, ня гледзячы на асыгнаваньне на іх грошы Соймам, а такжа справу аб утрыманьні прыватных беларускіх школаў у Панізьзі і Славенску, закладзеных Бел. Гасп. Зьвязам. Урэшце адзначае, што аслаўлены лемантар Любоч-Маеўскага дагэтуль ужываецца ў беларускіх і ўтраквістычных урадавых школах у старой рэдакцыі, хаця ўжываньне гэтае рэдакцыі афіцыяльна забаронена ўрадавымі цыркулярамі.

Гр. гр. **Тарасэвіч** (Баранавічы) і **Міхал Станкевіч** (Маладэчна) пацьвярджаюць апошнюю заяву фактам з іх ваколіц.

Гр. **Трэпка** прапануе прыняць рэзалюцыю з пратэстам проці гэтага. Трэбуе ўрадавай дапамогі і правоў для Клецкае Бел. Гімназіі.

Гр. **Сарока** зварачае ўвагу на неабходнасьць арганізацыі беларускае моладзі і задачу гэту павінен узяць на сябе Цэнтрасаюз.

На гэтым бягучыя справы вычэрпываюць. Галасуюцца і аднадушна прынімаюцца наступныя рэзалюцыі:

1) Зьезд дамагаецца, каб у вучыцельскай сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча ў Вільні выклады агульнае геаграфіі, агульнае гісторыі, гыгіены і гімнастыкі адбываліся ў беларускай мове і каб узгадаваньне вучашчыхся было ў руках узгадавальнікаў-беларусаў. Зьезд даручае Прэзыдыуму Галоўнае Рады ўчыніць усе крокі дзеля зьдзейсьненьня гэтага, упаўнамочываючы Прэзыдыум рэагаваць самым рашучым спосабам у выпадку невыпаўненьня ўладамі гэтага законнага і слушнага трэбаваньня, ня спыняючыся перад байкотам сэмінарыі.

2) Зьезд дамагаецца, каб яшчэ сёлета былі адчынены ў Вільні беларускія аднагоднія вучыцельскія курсы, грошы на якія прызнаны Соймам.

3) Зьезд дамагаецца наданьня правоў Клецкай Беларускай Гімназіі і дапамогі ёй з боку ўраду ў пастаці этатаў для вучыцялёў.

4) Зьезд дамагаецца безадкладнае выдачы прызнаных Соймам сум на заканчэньне будовы гмаху бурсы пры Навагрудзкай Белар. Гімназіі.

5) Зьезд дамагаецца безадкладнага забраньня з беларускіх і ўтраквістычных урадовых школ лемантара Ст. Любіч-Маеўскага, які ўжываецца дагэтуль у сваёй першай рэдакцыі, і замены яго новай рэдакцыяй, надрукованай зьбеларушчанай лацінікай і кірыліцай з дадатковай лектурай кірыліцай у лацінічным выданьні і з лацінічнай—у кірылічным, з тым, што ўжываньне таго ці іншага выданьня залежыць ад вольнага выбару бацькоў вучняў.

6) Зьезд даручае Прэзыдыуму Галоўнае Рады ўчыніць неабходныя крокі дзеля захаваньня і далейшага ўтрымліваньня закладзеных „Зьвязам“ беларускіх прыватных пачаткавых школ у Панізьзі і Славенску.

7) Зьезд даручае Прэзыдыуму парупіцца аб хутчэйшым наладжаньні працы дзеля арганізацыі беларускае моладзі.

Павестка дня вычарпана. Старшыня зварачаецца да сабраных з заклікам, каб усе жывыя сілы беларускія на мясцох выявілі сваю акты-

насьць і працавалі ў самай цеснай лучнасьці з Цэнтрасаюзам, і тады супольнымі сіламі лягчэй будзе здабываць тое, што так неабходна дзеля жыцьця і разьвіцьця Беларускага народу. Сэсія Галоўнае Рады абвяшчаецца зачыненай.

Старшыня: Ант. Луцкевіч.

Сэкрэтар: С. Станкевіч.

## Прадвыбарная хроніка.

### Жыдоўскі нацыянальны блёк у трох ваяводзтваў.

Сярод правадыроў віленскіх жыдоўскіх арганізацыяў вядуцца прыватныя перагаворы аб збліжаючыхся выбарах у Сойм.

Усе таго погляду, што ў віленскім вокрузе павінен стварыцца нацыянальны блёк усіх жыдоўскіх арганізацыяў і інстытуцыяў. Таго самага трымаюцца і віленскія сіоністы. Калі-ж у Варшаве гэты блёк ня створыцца, то гэты нацыянальны блёк будзе істнаваць толькі ў віленскім, наваградзкім і беластоцкім ваяводзтвах.

Гавораць нават ужо аб кандыдатах. На першым мейсцы будзе доктар Выгодзкі, а на другім дохтар Ротэштрайх, які ёсьць кандыдатам гаспадарчых арганізацыі.

Але думаюць, што нават пры нацыянальным блёку, віленскі мандат вельмі праблематычны.

### Агульна-беларускі фронт.

Як нас інфармуюць, — пачаліся паміж прадстаўнікамі Бел. „Цэнтрасаюзу" і іншымі беларускімі арганізацыямі безпасярэднія перагаворы аб утварэньні выбарнага блёку падчас выбараў у Сойм і Сэнат.

Чым закончацца гэтыя перагаворы — пакуль што трудна сказаць.

## Акцыя „падрыўнога экспорту" з ССРР пашыраецца.

Радавы ўрад зусім ня мае намеру спыняць ці зьмяншаць, ня гледзячы на кампанію ўсёй замежнай прэсы, распачатага ў шырокім маштабе „бросавага" ці вярней падрыўнога экспорту (вывазу). Радавы „Внешторг", як пішуць газэты, падрыктаваў ужо новую групу тавараў, якія мае масова кінуць на замежныя рынкі па нячувана танных цэнах. У Лёндан, дзе нядаўна радавыя гандлёвыя агенты зафрахтавалі некалькі дзясяткаў параходаў, надыйшоў ужо вялізарны транспарт гэтых новых тавараў, выробленых блізу нявольніцкай працай у ССРР.

Мы ўжо высьвятлялі тыя мэты, якімі кіруецца радавы ўрад, кідаючы танныя тавары на замежныя рынкі.

Мэты гэтага, як называюць англійцы, „дэмпінгу",—і ўнутрана і вонкава-палітычныя. Радавы ўрад страшэнна патрабуе замежнай цьвердай валюты — асабліва з прычыны нябывалага спадку чырвонца. Выкідаючы на замежныя рынкі масы розных тавараў, на якія ў краі стаіць страшэнны голад, Внешторг адначасна выпаўняе заданьні Комінтэрну, — руйнуючы прамысловасьць замежных краінаў, павялічываючы і іх безработцье, завастраючы тым сацыяльныя канфлікты працы і капіталу, адным словам—працуючы на сусьветную рэвалюцыю...

Як жа рэагуе на гэта буржуазны Захад? Як заўсёды: калі гэта выгадна і карысна ў даным выпадку, маўчыць і „выкарыстоўвае сытуацыю"; калі наразе гэта выклікае крызіс і забурэньні, пратэстуе, але толькі — да пары, пакуль радавы ўрад ня кіне яму якой новай падачкі — коштам сваіх і яго працоўных масаў...

Некаторыя заходнія дзяржавы ня толькі паважна не пратэстуюць проці гэтага радавага „дэмпінгу", але ўжо спрытна датарнаваліся да яго небясьпечнасьці, выкарыстываючы яго выгадныя для іх бакі. Так, напрыклад, Англія шырака расчыніла свае рынкі для таннага радавага цукру (якога блізу ня бачаць дзеля яго даражыні „сувэрэнныя" работнікі і сяляне—„Работніцка-Сельскіх рэспублікаў" ССРР!..). На гэтым блізу дармовым расейскім цукры, праўда, крыху падбіўшым цукровую прамысловасьць Англіі, англійцы пабудавалі новую галіну прамысловасьці, шырока разьвіўшы прадукцыю мармаляды і канфітураў, здабыўшы гэтым танным прадуктам сусьветныя рынкі!..

Таксама мае зрабіць Нямеччына з блізу дармовым радавым лесам, які пасьля вайны ўзрос у цане на сусьветным рынку на 35 прац. ССРР мае найвялікшыя ў сьвеце запасы лесу—блізу мільярд гэктараў,—з якімі ня могуць нават у параўнаньні існці запасы усіх яго эўрапэйскіх канкурэнтаў Швэцыі і Фінляндыі, разам узятых. За 15 гадоў вайны і рэвалюцыі, калі выраб і вываз дрэва з Расеі быў блізу спынены, ў яе вялізарных лясных абшарах награмадзіліся нязьлічаныя масы дасьпелага дрэва, якое абавязкава трэба ссячы і пусьціць на ўжытак. Пры нармальным парадку, пры запраўды народным-нацыянальным урадзе, — з гэтай масы дрэва можна было эканамічна пабудаваць ды перабудаваць усю зруйнаваную, месцамі амаль ня бяздомную вясковую і мястовую Расею. Замест таго, ўсю гэтую нячувана карысную „лясную каньюнктуру" ССРР мае выкарыстаць... Нямеччына. Нямецкія прамыслоўцы вымагаюць ад ураду шырокага адчыненьня мытных брамаў для таннага радавага лесу, каб на яго перарабцы пабудаваць нанова ў шырокім маштабе арганізаваную прамысловасьць, вырабамі якой маюць намер заваяваць таксама сусьветны рынак... Так было перад вайной, калі Нямеччына найбольш зарабляла на апрацоўцы расейскага лесу. Так будзе і цяпер, толькі ў варунках яшчэ больш забіўчых для народаў ССРР і яшчэ выгаднейшых для наслаўшых у Расею бальшавікоў немцаў...

Тое-ж самае робіцца і ў Амэрыцы, якая быццам найшчырэй выступае проці бальшавікоў.— Распачатую было ўжо вострую і шырокую акцыю работніцкіх арганізацыяў проці „падрыўнога экспорту" Внешторгу, кіруючыя ўсёй палітыкай амэрыканскай „рэспублікі", два дзесяткі мільярдэраў раптам спынілі,—пасьля таго, як атрымалі ад радавага ўраду рад новых вялізарных замоваў і абецанак канцэсіяў...

Такім чынам, як бачым, на тэрэне міжнародным, радаваму ўраду не пагражае ніякай небясьпекі за яго „дывэрсыйны вываз". — Заходні чалавек навучыўся хутка і спрытна ператвараць сабе на карысьць і гэтую „ўсходнюю небясьпеку"...

Пабачым цяпер, як-жа радзіць сабе радавая ўлада з тым абурэньнем, з тым спрацівам унутры, якія ня могуць ня быць выкліканы такой акцыяй сталага адбіраньня ад насяленьня патрэбных для яго жыцьця тавараў—дзеля вывазу заграніцу — на здабыцьцё, неабходнай для далейшага ўтрыманьня радавай улады, валюты.

У адказ на гэта дае красамоўна, новая хваля тэрору, ахапіўшая ўвесь абшар ССРР. Каб адхіліць увагу і гнеў шырокіх народных масаў ад запраўдных вінаўнікаў усьцяж павялічываючагася — дзякуючы „дэмпінгу" — таварнага голаду ў краі, Радавы ўрад ізноў хапіўся за старую, выпрабаваную тактыку—стварэньня штучных працэсаў проці „шкоднікаў, сыстэматычна псуючых меры радавай улады ў галіне абслугоўваньня насяленьня ССРР патрэбнымі таварамі і прадуктамі спажываньня"... Так літаральна фармуляваны абвінавачаньні ў гэтых масавых працэсах, распачатых у апошнія дні—ў Маскве, Менску, Ленінградзе і ў цэлым радзе іншых местаў Расеі, Беларусі, Украіны, Сібіры і т. д.

Цынізм гэтых працэсаў, маючых ізноў заліць крывёй ССРР, проста нячуваны!

## Сяляне уцякаюць з Саветаў.

Справы ў Саветах стаяць так, што працоўнаму сялянству нічога балей не застаецца там рабіць—як уцякаць.

Некалькі месяцаў таму назад газэты перадавалі, што немцы-каляністы цэлымі тысячнымі тоўпамі асаджалі Савецкія ўрады, дамагаючыся візы на выезд у Нямеччыну. Пры дапамозе нямецкіх консулаў нямецкім каляністам гэта ўдалося зрабіць і цяпер яны вярнуліся туды, адкуль выехалі іх дзяды, больш як сто гадоў таму назад.

Разсказываюць фактычна „дзівосы" пра ўсё тое, што робіць камуністычная ўлада с працоўным сялянствам.

Штобы там не казалі пра ўсе гэтыя „дзівосы"—да аднаго толькі можна прыйсьці, што ад добрага жыцьця ня будзеш уцякаць аж у Нямеччыну, дзе і сваім безработным няма чаго рабіць.

Цяпер за апошнія часы пачалі пісаць у газэтах, што з Саветаў уцякаюць ня толькі „буржуі"—немцы, але і свае абадраныя і галодныя сяляне, пераважна беларусы і ўкраінцы, да якіх бліжэй заходня-эўрапейская граніца.

Гэтыя „ўцекачы" бягуць без уселякіх пашпартоў і пропускаў, якія замяняюць ім цёмныя восеньнія ночы і некалькі гадзін страху.

Пішуць напрыклад, што за апошнія часы пераходзіць граніцу больш 50 чалавек у тыдзень.

Уцекачы тымчасова ўмяшчаюцца ў асобных лягерах, якія зарганізаваны ў пагранічных паветах—Стаўпецкім, Валожынскім і іншых.

Была-б карысным, каб сяляне з іншых паветаў, як напр. Слонімскага, Пружанскага і другіх, дзе дзякуючы сваёй несьвядомасьці яны яшчэ вераць, што ў Саветах вельмі добра жывецца ўсім працоўным—прыслалі „хадакоў" у гэтыя лягеры з бежанцамі і добра паразведалі-б ад іх, што фактычна робіцца ў „камуністычнай" дзяржаве пад „гегемоніяй" пралетарыяту.

Магчыма, што нашыя самаўрады а можа і павятовыя старосты дагадаюцца нарэшце даць нейкія зніжковыя білеты для такіх хадакоў. У Нямеччыне куды відаць разумнейшыя людзі ад польскіх урадоўцаў і дзеячоў: там ужо даўно сялянства мела магчымасьць паразьведаць беспасярэдня ад бежанцаў аб тых прычынах, якія іх змусілі кінуць усё і ўцякаць куды вочы глядзяць.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Разбраеньне баёвак П. П. С.

Урад, як відаць, рашуча ўзяўся за П. П. С. і прыступіў цяпер да ліквідацыі баёвак гэтай партыі.

Нядовячы ў Чэнстахове былі разброены баёўкі і г. зв. міліцыя.

24 верасьня ў Пабіяніцах паліцыя правяла цэлы рад вобыскаў сярод сяброў гэнае партыі, шукаючы аружжа,

Тое самае робіцца і ў іншых мейсцох.

### Роспуск Слёнскага Сойму.

25 верасьня г. г. дэкрэтам пана Прэзыдэнта Слёнскі Сойм быў распушчаны і вызначаны новыя выбары на 23 лістапада г. г.

### Арышты былых паслоў.

Па загаду пракурора акружнога суду ў Катавіцах арыштаваны б. пасол Карфанты.

Арыштаванаму закідаецца цэлы рад праступленьняў носячых характар крымінальны і палітычны,

У зьвязку з роспускам Слёнскага Сойму арыштаваны б. пасол гэтага Сойму Е. Вечорак, які належыць да камуністычнае партыі.

### Паход на „эндэкаў".

Пракурор акружнога суду ў Гнезьне распачаў справу проці рэдактара Павідзкага, б. пасла Левандоўскага і іншых эндэцкіх дзеячоў, абвінавачываючы іх у розных праступленьнях, як крымінальных так і палітычных.

## Што бачылі ангельскія вугляколы у Саветах.

У вугальным раёне Англіі ў Кенце камуністы вялі страшэнную прапаганду за тое, што жыцьцё вуглякопаў у Саветах ёсьць куды лепшым чым у Англіі і калі-б ангельскія працаўнікі пабылі-б там, то не захацелі-б вярнуцца.

І вось тры ангельскія прадстаўнікі паехалі ў Расею. Там яны былі праз некаторы час без урадавай апекі і таму пабачылі тое, што яны хацелі і што павінны былі бачыць. Калі-ж у Маскве імі заапекаваўся ўрад, то не бачачы ў гэтым цікавасьці, вярнуліся ў Англію, падаючы наступную справаздачу.

Паперш іх страшэнна здзівіў бязмерны лік палузнішчаных дамоў, каторымі ніхто не апекуецца. У цэлых-жа дамох жыве па некалькі радзін у вадным памешканьні.

На пытаньне чаму гэта замест дамоў, будуюцца тэатры, адказ быў такі: „Калі-б працаўнікам добра жылося, то спынілася-б цікавасьць да палітыкі і тады яны згубілі-б „баёвы дух".

Да ўмоваў працы прадстаўнікі адносяцца вельмі крытычна, зазначаючы, што адзінай добрай справай зробленай у Саветах, ёсьць некалькі тыднёвы платны выпачынак. Здабываньне ж вугля адбываецца пры такіх варунках, што ангельскі рабочы ня вытрымаў-бы там і трох гадзін у дзень, (савецкія працуюць 6).

У некаторых шахтах вуглякопы атрымоўваюць грошы за столькі скольні яны выкапалі вугля.

Калі-ж ангельцы запыталі, чаму ім ня плоцяць штодзенна, то кіраўнік здзіўлена адказаў: „Бо яны-б тады зусім не выкапывалі вугля".

## Заграніцай.

### У Радавай Беларусі.

Польскія газэты падаюць, што ў ноч на 23. IX. на абшарах Радавай Беларусі зроблена шмат вобыскаў і арыштаў. Арышты зьявіліся ў рэзультаце быццам раскрытай шырака разгалінёнай у краі „контр-рэвалюцыйнай арганізацыі сярод працаўнікоў ваеннай прамысловасьці, чугуншчыкаў, вучыцельства і чырвонаармейцаў". Усяго арыштавана каля 100 асобаў. Сярод іх—10 вайсковых, 2 духоўных асобаў і 3 кіраўнікоў ваеннай прамысловасьці ў Менску. Усе арыштаваныя вывезены з Менску.

### Новы зварот хатняй вайны ў Кітаі.

У хатняй вайне ў Кітаі ў апошнія дні адбыўся новы зварот.—Уладар Манчжурыі Чанг-Сю-Ліанг, які дагэтуль ня ўмешываўся ў вайну паміж паўночнымі арміямі ген. Фэнга і Іен-Сі-Шанга з войскамі Кантонскага ўраду, раптам выйшаў з стану пасыўнасьці і зьвярнуўся да абедзьвюх ваюючых старонаў з вымаганьнем спыніць ваенную акцыю і распачаць мірнае паразуменьне. Каб прыдаць больш павагі свайму голасу, гэты сын Чанг-Тсо-Ліна дадаў, што высылае ў Пэкін і Цянь-Дзін войска сілаю у 150 000.

Гэты крок дыктатара Манчжурыі тлумачыцца, як ратаваньне Нанкінскага ўраду, якому-б цяжка прышлося ад канцэнтраванага націску варожых арміяў з поўначы і з'паўдня.

## Кароткія навіны.

Вёска байкатуець савецкія займы. Як асьведчыў Камісар Фінансаў Бруханоў—на вёсках удалася разьмясьціць толькі 12% займаў.

Камісар фінансаў дамагаецца каб савецкія займы разьмяшчаліся па вёсках прымусова. Ня зусім вясёлыя справы ў савецкіх фінансах, калі прыходзіцца прыбягаць да такіх сродкаў!

Лік безработных у Англіі зноў павялічыўся і дайшоў да 2.060.444 чалавек—на 908.184 чал. балей, чым год таму назад.

Сялянства ў Саветах хавае хлеб, каб яго не забралі камуністычныя ўлады.

Газэта „Известия“ піша, што плян хлебных загатовак амаль ва ўсіх раёнах не выкананы. Прадбачыцца голад у гарадох і прамысловых вокругах.

24 верасьня быў абвешчаны ў Саветах урадовы камунікат аб расстрэле аж 48 вядомых спэцыялістаў, якія шмат гадоў працавалі ў апровізацыйных інстытуціях.

Сярод расстрэляных знаходзяцца між іншым наступныя асобы: прафэсар Разанцаў, б. рэдактар „Таргово-прамышленнай газэты“, Каратыгін, Тэрэшчэнко і іншыя. Цяжка спадзявацца, каб гэтымі дзікімі эгзэкуцыямі можна было накарміць галадаючых савецкіх грамадзян.

У начы 25 верасьня група савецкіх сялян у раёне Ракава зноў хацела дастацца на гэты бок, але відаць была захоплена пагранічнымі чэкістамі. Чуваць была страляніна — аказалася, што сяляне былі ваяружаны, але былі разьбіты і разьбегліся па лесе.

Савецкая стража зрабіла аблаву шукаючы ўцекачоў пры помачы сабак, але невядома чым яна закончылася.

Да таго, што творыцца ў Кітаі—не хапала яшчэ чумы.

Як дакосіць загранічная прэса—эпідэмія чумы хутка пашыраецца ў правінцыі Шэнсі. Соткі людзей і цэлыя вёскі падаюць ахвярамі гэтай заразы.

Трупы валяюцца непахаванымі. Людзі ўцякаюць цэлымі натоўпамі на ўсход, разносючы заразу.

Адна з гітлераўскіх газэтаў выступіла з дамаганьнем, каб—„дзеля ачышчэньня нямецкай расы ад усялякай нячыстай крыві“ — ўсе дзеці, якія нарадзіліся ў часе францускай акупацыі на нямецкай зямлі ў нямецкіх жанчын ад францускіх жаўнераў—белых ці каляровых (з Афрыкі), ці з Азіі былі забіты, дый каб самыя маткі былі пазбаўлены плоднасьці... „Гітляраўская“ газэта згаджаецца зрабіць вынятак толькі для дзяцей ангельскіх акупацыйных жаўнераў... Недарма-ж гэтыя „гітляраўцы“ інакш называюцца „расістамі“—бо-ж, як бачым, запраўды-ж страшэнна дбаюць аб чыстасьць нямецкай расы...

Абісінія ўсьцяж імкнецца да таго, каб прыцягнуць у свой край амэрыканскі капітал — замест ангельскага, францускага і італьянскага, залішне ўжо обнаглеўшага імкненьнем да палітычнага захопу краю — пад пазорам падзелу паміж гэтымі дзяржавамі ўсяго краю на „пасы ўплываў“. Амэрыка ахвотна ідзе на гэта і павольна але няўхільна і рашуча выпірае з краю сваім няпераможным далярам эўрапейскіх канкурэнтаў.

З прычыны блізу поўнай адсутнасьці ўсялякага рамонту, дамы ў местах СССР усьцяж руйнуюцца. Радавая ўлада замест рамонту проста высяляе з разваліваючыхся дамоў іх жыхароў вон. Некаторым з іх прывілеяваным знаходзяць новыя сялібы, а іншых проста выкідаюць на брук.

Так, у адным з раёнаў Масквы толькі што высяляна з небясьпечных для жыльля дамоў 12.000 асоб. Частку іх расялілі па клюбах, чайных і д. т. п.

Маскоўская „Рада Працы і абароны“ загадала мабілізаваць у працягу тыдня яшчэ 200.000 работнікаў для загатоўкі лесу для вывазу заграніцу. Паводле афіцыяльных вестак з 14.000 работнікаў, высланых нядаўна ў Архангельскі раён для леса-загатоўкі, ўцякло 11.000... Ясна, ў якіх варунках ідзе гэтая праца.

Страшэннае абурэньне сярод амэрыканскіх фэрмэраў (хлебаробаў) выклікала заява міністра земляробства аб тым, што Внешторг запрадаў на Чыкагскай хлебнай біржы 15 мільён. бушэлей пшаніцы. Газэты пішуць, што гэтая запрадажа можа яшчэ і дутая (фальшывая), але сваё ўжо зрабіла: цэны на збожжа раптам значна спалі.

У Ленінградзе ізноў арыштавана шмат радавых урадоўцаў, служачых інтэнданцкіх складаў, каапэратараў, дробных гандляроў. Вінавацяцца ўсе ў надужыцьцях хаваньні і — раскраданьні прадметаў першай патрэбы.

Радавая агенства „ТАСС“ страшэнна ўстрывожана, даведаўшыся, быццам у Жэневе ў часе сэсіі Лігі ўсьцяж ідуць гутаркі паміж дэловымі дэлегатамі „францускага блёку“ дзяржаваў—у справе стварэньня супольнага процi-радавага фронту „на выпадак вайны“...

60 жаноцкіх аб'еднаньняў, гуртуючых 40 мільёнаў кабетаў з 56 краёў зьвярнуліся да Лігі Нацыяў, дамагаючыся ад яе прыняць усе меры, каб папярэдзіць магчымасьць выбуху новай вайны.

## Хроніка.

× **Урачыстая Акадэмія з прычыны сьвяткаваньня 25 угодкаў літэратурнае працы Янкі Купалы.** 27 верасьня вечарам у мурох Віленскай Беларускай гімназіі была арганізавана Урачыстая Акадэмія, на якую зьявілася беларускае грамадзянства, шчыльна запоўніўшы ўсю салю.

Быў адчытаны гр. А. Луцкевічам даклад, які абрысаваў творчасьць нашага паэты, як прарока адраджэньня беларускага народу.

Даклад гэты быў выслуханы прысутнымі з вялікім зацікаўленьнем.

Пасьля дакладу распачаўся Канцэртны Аддзел Вечару. Хор вучняў Беларускае Гімназіі вельмі артыстычна прапяяў некалькі прыгожа згарманізаваных вершаў Купалы, як: „А хто там ідзе“, „І пайшла і пайшла“, „Зайшло ўжо сонейкі“ і ўрэшце поўную ідэолёгічнага зьместу „Не пагаснуць зоркі ў небе“, ўважаную сяньня за беларускі нацыянальны гымн.

Вучнямі Гімназіі і Студэнтамі былі прадэклямаваны наступныя вершы Купалы: „Беларускаму Народу“, „Прарок“. „Беларушчына“, „Курган“, „Гэй наперад пакуль сэрца“, „Цару Неба і Зямлі“. Асабліва прыгожа і артыстычна прадэклямавала вуч. Бел. Гімн. Ганна Шутавічанка.

На канец быў адыграны сцэнічны абразок Купалы „На Папасе“.

Наагул вечар прайшоў вельмі добра і пакінуў добрае ўражаньне сярод прысутных.

× **Беларускія каапэратыўныя курсы праз карэспандэнцыю.** Беларускі Студэнцкі Саюз у хуткім часе праэктуе адчыніць „Беларускія Каапэратыўныя Курсы праз карэспандэнцыю“, якія будуць абыймаць сабою ўсе веды ў галіне каапэрацыі, як: гістарычную, статыстычную, тэорэтычную, практычную і бухгальтэрыю. Мэтаю курсаў будзе прыгатаваньне ідэовых і фаховых кіраўнікоў спажывецкіх каапэратываў на мяйсцох. У будучыні нашыя вёскі павінны мець па некалькі такіх кіраўнікоў, бо ў каапэрацыі, нашая будучыня, нашая эканамічная незалежнасьць. Курсы будуць трываць 10 месяцаў, у працягу якіх кожны вучань будзе атрымліваць што тыдзень новую лекцыю, па вывучэньню і ахапленьню якое мусіць будзе напісаць і пераслаць да кіраўніцтва курсаў пісьменнае апрацаваньне на тэмы з данае лекцыі прыложаныя ў яе канцы. Па здавальняючым адказе на ўсе лекцыі, кожны вучань атрымае пасьведчаньне, даючае яму пяршэнства ў занятцы мейсца кіраўніка спажывецкага каапэратыву. Хто мае ахвоту і пачуваецца да абавязку скончэньня гэтых курсаў, ужо цяпер пісьменна павінен паведаміць Беларускі Студэнцкі Саюз (Вільня, Віленская 8—3), прысылаючы адказ на такія пытаньні: 1. Імя і прозьвішча, 2. мейсца сталага жыцьця, 3. колькі год, 4. якая адукацыя (на курсы будуць прымацца асобы, кончыўшыя найменш 3 аддзелы пачатковае школы), 5. ці цікавіцца каапэрацыяй і ці знаёмы ўжо з ёю трохі. Аб часе распачацьця навукі ўсе зарэгістраваныя асобы будуць павядомляны асобна.

**Аплаты за навуку, па за зваротам коштаў на паперу, на друк і паштовыя маркі, ня будзе ніякае.**

× Выйшаў з друку і прадаецца ўва ўсіх кнігарнях № 2 (13) „Студэнцкай Думкі“.

Нумар гэты састаўлены вельмі добра і цікава. Паміж іншым надрукаваны вершы маладых нашых паэтаў Бартуля і Тулейкі, якія бязумоўна многа могуць унесьці ў скарбніцу нашае поэзіі. Больш падробны агляд матэрыялу ўзмешчанага ў „Ст. Дум.“—дамо ў наступным нумары газэты.

Трэба пажадаць, каб нашая студэнцкая моладзь і далей працавала над выданьнем сваяго воргану, які прычыняецца да пашырэньня нашае культуры.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Паважаны грамадзянін Рэдактар!

Не адкажэце надрукаваць ніжэйнаступнага.

У № 27 газ. Беларуская „Крыніца“ надрукавана стацьця „Каля выбараў“, у якой старым звычаем, пануючым у частцы беларускай прэсы, знаходзіцца асабісты напад на мяне, на які я ня лічыў бы нават патрэбным адказваць. Але рэч у тым, што невядомы для мяне аўтар з „Крыніцы“, хацеў-бы скампраметаваць мяне як грамадзкага дзеяча, закідаючы між іншым, што мяне нейкія „разбушаваўшыяся хвалі“ кідаюць „ад берагу да берагу“ і выкінулі нарэшце ў „санацыйны стаў“ з „шырокіх грамадаўскіх“ водаў“.

Ня ведаю фактычна да якога берагу хацелася-б Крыніцы—каб я прыстаў. Мне здаецца, да якога-б берагу я ня прыстаў — задаволіць „Крыніцу“ ня змог-бы.

Я прыстаў да таго берагу, дзе бачу сапраўдную працу на карысьць беларускага народу, працу, якая вядзецца ня толькі на паперы—а дзе фактычна нешта робіцца і гэта „нешта“ даецца заўважыць.

Я прыстаў да ўноў утворанага Беларускага „Цэнтрасаюзу“, які аб'едныявае усе нашыя жывыя і існуючыя арганізацыі і Інстытуцыі і які мае намер пашырыць, як лік гэтых арганізацыяў, так і ўзмацніць іх працу.

Больш, апрача гэтых арганізацыяў і інстытуцыяў мы нічога ня маем, бо ня можна-ж запраўды лічыць за інстытуцыю ці то арганізацыю нейкую „мёртвую душу“, якая нічога ня робіць і толькі носіць гучны назоў, абманываючы ўвесь беларускі народ. Такіх мёртвых арганізацыяў мы маем даволі многа, але карысьці ад іх мець ня будзем.

Разглядзіўшы палажэньне, якое ўтварылася ў нас падчас маяго амаль 4 гадовага прабываньня ў вастрозе,—я прыйшоў да вываду, што ўсе жывыя сілы, якія нешта рабілі і якія здольны прынесьці карысьць нашай беларускай грамадзкасьці—ўсе яны гуртуюцца каля Бел. „Цэнтрасаюзу“.

Вось гэныя прычыны і змусілі мяне прыстаць да таго берагу, які так не падабаецца „Крыніцы“.

Мушу яшчэ зазначыць, што ніякія „фалі“ мяне не насілі і насіць ня будуць.

На „шырокіх водах“ Грамады, выражаючысь „стылем“ Крыніцы „плавала“ многа такіх людзей, якія цяпер заняты пазытыўнаю працаю, бачучы ў гэтым адзіны выхад для справы нашага нацыянальнага і культурнага адраджэньня. А гэтая справа зьяўляецца для многіх, а ў тым ліку і для мяне,—найбліжэйшаю. Крок мой не зьяўляецца нечым непрадуманым, альбо выпадковым — яшчэ за доўга да сваяго звальненьня—прыйшоў да пераконаньня, што ўсяму сьвядомаму беларускаму грамадзянству трэба рашуча ўзяцца да тых справаў, якімі будзе цяпер займацца Беларускі „Цэнтрасаюз“, адкінуўшы ўселякую дэмагогію.

Няхай гэта называюць „палітыкі“ з Крыніцы „санацыяй“. Іншыя дэмагогі быць можа назавуць нашую працу „фашызмам“.

Рэч аднак не ў назове, а ў сутнасьці той фактычнай працы, якая вядзецца нашымі інстытуцыямі і арганізацыямі.

Дэмагогія пусьціла ў нашым жыцьці глыбокія карэньні, але ня ёй спыніць гэтую карысную для беларускага народу працу, якую павёў „Цэнтрасаюз“.

Ф. Акінчыц.

---

**Прачытаўшы газэту — перадай другому.**

---

## Усячына.

### „Знойдзены найстарэйшы ў сьвеце слоўнік“.

Француская археолёгічная экспэдыцыя, працуючая пад кіраўніцтвам слыннага вучонага д-ра Шэфэра, наткнулася пры раскопках на археолёгічную вартасьць, а іменна,—знайшла найстарэйшы ў сьвеце слоўнік.

Прыблізна год таму д-р Шэфэр сыстэматычна праводзіў раскопкі ў Сырыі і знайшоў руіны старога места Сакута. Места гэта паводле лягенд існавала 6 тысяч год назад і было як відаць галоўным цэнтрам. Па раскопках экспэдыцыя сьцьвердзіла, што кіравалася яно прынцам.

У вадной са зьнішчаных саляў д-р Шэфэр знайшоў бібліатэку і на знойдзенных там дошках, выпісаных словамі ў пэўным парадку, зразумеў, што гэта мае быць слоўнік.

Праца перакладчыкаў і знатакоў старадаўніх моваў была ня зусім лёгкая. Яны пераканаліся, што жыхары Сакуты гутарылі і пісалі на шасьці мовах. Для зносінаў з іншымі дзяржавамі ўжывалася бабілёнская мова, у ваколіцах Сакуты гутарылі па жыдоўску, вучоныя-ж і духавенства гутарылі па лаціне тае эпохі. Чацьвертай мовай была эгіпецкая, а таксама ёсьць ведамасьці яшчэ аб двух мовах.

Найстарэйшы слоўнік будзе перавезены Шэфэрам у Францыю, дзе яго змесьцяць у мастацка-гістарычным музэі.

### Папера і тканіны з торфу.

Наша Беларусь—адна з найбагацейшых торфам краінаў на сьвеце, таму для нас асабліва цікавы новы вынаход двух чэшскіх прамыслоўцаў, якія знайшлі спосаб вырабу з торфу — нягорш, як з дрэва—цэлюлёзнай масы, з якой вырабляецца цяпер масова папера, штучны шоўк, дый іншыя рэчы.

Новы вынаход пэўне зробіць запраўдны пераварот у так шырака распаўсюджанай цяпер на сьвеце прамысловасьці штучнага шоўку, якая, як ведама, зрабілася за апошнія часы аднэй з паважнейшых галінаў прамысловай працы і ў Польшчы. А гэта таму, што фабрычная пераработка торфу ў штучны шоўк займае толькі палову часу, патрэбнага на выраб гэтай тканіны з дрэва, а датаго-ж і каштуе ў 2—3 раза таней. Апроч шоўку і паперы з торфу, дзякуючы новаму вынаходу, можна будзе вырабляць фільмы (істужкі) да кінаў, кругі для грамафонаў і д. т. п. рэчы.

Трэба таму спадзявацца, што новы вынаход у хуткім часе кіне значныя капіталы і ў наш край і збудзіць да новага жыцьця нашыя вялізарныя тарфяныя абшары, якія дагэтуль усьцяж сьпяць адвечным сном без усялякай карысьці для краю.

Рэдактар-Выдавец: М. Сіняўскі.



Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.